НАША СВАБОДА

№78(165) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

27 ЛІПЕНЯ 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



## Парадак выкарыстання дзяржаўных СМІ для кандыдатаў

25 ліпеня Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў зацвердзіла на сваім паседжанні пастанову «Аб устанаўленні парадку выкарыстання дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь».

Згодна з гэтым дакументам, усе кандыдаты ў прэзідэнты будуць мець права на апублікаванне сваіх перадвыбарных платформаў аб'ёмам не больш за 5 машынапісных старонак у васьмі дзяржаўных друкаваных выданнях — «Беларуская ніва», «Звязда», «Знамя юности», «Советская Белоруссия», «Чырвоная змена», «Народная газета», «7 дней», «Рэспубліка». Тэксты выступленняў кандыдаты абавязаны прадставіць у рэдакцыі не пазней, чым 19 жніўня.

Дакумент таксама гарантуе прадастаўленне кандыдатам магчымасці двойчы выступіць па дзяржаўным тэлебачанні і столькі ж — па першым канале Беларускага радыё. Працягласць кожнага выступлення не павінна перавышаць 30 хвілінаў. Выступленні будуць трансліравацца ў запісе ў буднія дні: з 18.30 да 19.30 – па тэлебачанні і з 8.00 да 9.00 – па радыё. Дату выступленняў вызначыць жэрабі.

Юрый ПАЦЁМКІН

## На сведкаў ціснуць

Дакументы, перададзеныя адзіным прэтэндэнтам у прэзідэнты Уладзімірам Ганчарыкам 13 ліпеня журналістам, «сапраўдныя». Пра гэта НАШАЙ СВАБОДЗЕ заявіў сябра грамадскай камісіі па расследаванні знікненняў Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага ды Дзмітрыя Завадскага Сяргей Стрыжонак. Паводле яго, эксперты за дакументаў, якія сведчаць пра дачыненне ўладаў да знікненняў палітычных апанентаў, сапраўдная.

Відавочна, што пакет дакументаў, абнародаваных Уладзімірам Ганчарыкам, — гэта дакументы, вывезеныя за мяжу былымі следчымі Алегам Случакам і Дзмітрыем Петрушкевічам, ва ўсякім выпадку, іх частка. Былыя следчыя не спяшаліся абнародаваць матэрыялы крымінальнай справы па факце знікнення Д.Завадскага – хацелі гарантыяў для сваіх сем'яў. 10 ліпеня жонка Алега Случака з дзіцем і цяжарная жонка Д.Петрушкевіча выехалі за мяжу, таму 13 ліпеня і адбыўся выкід інфармацыі ў прэсу.

Між тым, паводле Сяргея Стрыжонка, абодва фігуранты па справе, якія згадваюцца ў матэрыялах, начальнік Следчага ізалятара №1 Камітэта па выкананні пакаранняў палкоўнік унутранай службы Алег Алкаеў ды начальнік ГУКМ МУС генерал-маёр Лапацік фактычна адхілены ад службовых абавязкаў. У пратаколах допыту Алег Алкаеў паказвае, што ён выдаваў расстрэльны пісталет, якім прыводзіцца ў выкананне смяротныя прыгаворы, якраз напярэдадні знікненняў Юрыя Захаранкі ды Віктара Ганчара з Анатолем Красоўскім. З імі ўвогуле немагчыма звязацца, і іхняе месцазнаходжанне невядомае. Больш за тое, «з вельмі надзейных крыніцаў» стала вядома, што «з Алкаевым вельмі цесна працуе Савет бяспекі з тым, каб ён памяняў свае паказанні». Такая ж сітуацыя назіраецца і з генерал-маёрам Лапацікам. Грамадская камісія папярэджвае, што гэта не дасць чаканага ўладамі плёну і толькі «пагоршыць сітуацыю».

Аддзел інфармацыі

# Моладзь караюць за графіці




Фота Ул.ШЛАПАКА

Абвінавачаныя «зубраўцы» падчас судовага паседжання. Працяг тэмы на стар.3

# «Мы настроены на победу»

*21 июля наконец-то «пятерка» оппозиционных претендентов в президенты сделала выбор в пользу единого кандидата. Им стал председатель Федерации профсоюзов Белорусской Владимир Гончарик. Сегодня Владимир Гончарик – гость НАШАЙ СВАБОДЫ.*

### О едином претенденте

***— Владимир Иванович, единый претендент в президенты от оппозиции наконец-то появился. Но почему этот процесс шел с таким скрипом – из-за личных амбиций?***

– Субъективный фактор, безусловно, присутствовал. Но надо понимать, что «пятерка» сама по себе – это уникальное политическое явление в жизни республики. Поэтому, естественно, объединить силы, разно направленные по политическим, идеологическим взглядам, непросто. Отсюда и такой мучительный подготовительный процесс.

***— Владимир Иванович, единый кандидат определен. Возможно ли переиграть это решение? После заявления Центризбиркома о том, что только двое из «пятерки» – Вы и Домаш – прошли стотысячный порог, начали раздаваться голоса, что решение о едином кандидате – нелегитимное, поскольку трое остальных претендентов не имели права участвовать в его принятии, потому что якобы не набрали по 100 тысяч подписей...***

– Это неверная посылка, потому что изначально была договоренность – и она не раз повторялась – что «пятерка» в любом случае остается в команде, и она определяет стратегию, тактику действий. Рассматривались разные варианты, допустим, сняться до регистрации и на регистрацию идет один. Что, в этом случае «пятерка» не определяла бы позицию? Второй вариант: все подают на регистрацию (кстати, сейчас уточняется, куда исчезли тысячи подписей), не проходят они регистрацию – так что, они не определяют позицию единого? Я хочу сказать: если оставаться командой, каждый из «пятерки» имеет право голоса. Пересмотр, даже любая попытка пересмотра этого решения, – это было бы грубейшей политической ошибкой. И только в пользу власти.

***— Четыре названные Центризбиркомом фамилии, якобы перешедшие стотысячный порог: Лукашенко, Домаш, Гайдукевич и Гончарик, — это и есть сценарий властей использовать Домаша в этой игре?***

– Судя по последним выступлениям



Фота Ул.ШЛАПАКА

Белорусского телевидения, то да. И то интервью, которое у меня взяли, и у него – любая недомолвка трактуется так, что единого претендента нет, что это блеф. Я же хочу сказать, что это реальность. Да, выпал жребий на меня, это можно поразному оценивать. Но сейчас нужно занять две позиции. Можно пытаться докапываться, что взяли не те показатели и так далее... А можно начать работать – вторая для меня предпочтительнее. Времени мало...

***– Расскажите подробнее о принятом решении создать объединенный штаб. Что это такое, как он будет функционировать...***

– Действительно, принято решение создать объединенный штаб, фамилии пока уточняются. Единственное, что я могу сказать, – все члены «пятерки» входят в совет штаба. Они будут определять стратегию, тактику действий. Остальное, скажем, – оперативное, административное управление. Члены «пятерки» берут каждый на себя регион и определенное направление. Мы предложили – видимо, такое решение будет принято – что в этом штабе будут работать все способные люди, независимо от их партийной принадлежности. Естественно, это с учетом интересов всех претендентов. И, наконец, мы предлагаем создать консультативный политический совет из руководителей политических партий, общественных организаций, которые поддерживают единого кандидата, для выработки политических решений. Это оговорено, с этим согласились все.

***— Рассматривала ли «пятерка» вариант, когда Центризбирком зарегистрирует и Вас, и Домаша, чтобы столкнуть вас лбами. Что в этой ситуации Вы намереваетесь делать?***

– Мы договорились, что Семен Николаевич должен выполнить договоренности. То есть, сняться, если я буду зарегистрирован. Если нет – будем работать на него. Можно разные варианты придумать, что нас и обоих не зарегистрируют. Тогда встанет вопрос, что делать дальше. Я всегда говорю, что делить шкуру неубитого медведя – неблагодарное дело. Поэтому когда мне задают вопрос, кто кем будет, я говорю: давайте дойдем до определенного этапа. Вообще может случиться, что судьба выборов будет решаться в первом туре, если очень серьезно подойти к этому делу.

***— В первом туре? Между кем?***

– Это будет зависеть от той работы, которая будет сделана. Сейчас это самый-самый ответственный период: работа с людьми на местах, в том числе и с недостатком информации.

***— Кстати, как Вы намереваетесь прорывать существующую информационную блокаду?***

– Это одно из условий, при выполнении которого президентские выборы в Беларуси могут быть признаны легитимными.

*Окончание на стр.3*

## Лета без зарплаты

Ужо 3 месяцы не атрымліваюць заробку працоўныя Магілёўскага машынабудаўнічага завода. Тут нават пагаворваюць пра магчымы страйк. Падобная сітуацыя і на шэрагу іншых беларускіх прадпрыемстваў. Напрыклад, на Смаргонскім агрэгатным заводзе яшчэ не выплацілі заробак за травень. На МАЗе і МТЗ за чэрвень далі толькі палову зарплаты.

## Дзе самы вялікі конкурс?

Паводле дадзеных міністэрства адукацыі Беларусі, самыя вялікія абітурыенцкія конкурсы сёлета адзначаныя ў Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі (5,2 чалавека на месца) і ў Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі (4,7).

## Паехаць у Маскву – і не вярнуцца

Сёлета на тэрыторыі Расіі зніклі без вестак 96 грамадзянаў Беларусі. З іх 65 чалавек прапалі ў Маскве і Маскоўскай вобласці. 57 зніклых з'язджалі туды на заробкі.

## Кошты ўзраслі амаль на 25%

За першыя два тыдні ліпеня спажывецкія кошты ўзраслі на 1,3%. Гэта толькі крыху меней, чымсьці тое было ў першыя два тыдні мінулага месяца (1,5%). Агулам з пачатку года кошты ў нашай краіне падвысіліся на 24%.

## Яшчэ адзін хабарнік

За хабарніцтва затрыманы генеральны дырэктар Магілёўскага акцыянернага таварыства «Швейная фабрыка АКМО» Васіль Грышчанка. Ён падазраецца ў атрыманні ў якасці хабару 8.000 долараў ад прадстаўніка маскоўскай фірмы за продаж дарагой імпартнай сыравіны. Заведзеная крымінальная справа.

## Сусветная прэм'ера Опернага

Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы даў у Швейцарыі прэм'еру оперы «Юбілей». Яна створаная паводле п'есы Антона Чэхава на музыку мастацкага кіраўніка Опернага Сяргея Картэса. Прэм'ера прайшла падчас опернага фестывалю.

## Старабеларускі слоўнік

Інстытут мовазнаўства Акадэміі навук бліжэйшым часам выпусціць новы «Гістарычны слоўнік беларускай мовы». Ён складзены паводле вывучэння літаратурных помнікаў сярэднявечча і дапаможа ахвотным у чытанні па-старабеларуску.

## НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

1450



ВЫБАРЫ

## Кангрэс моладзі пад пагрозай зрыву

Запланаваны на 29 ліпеня Кангрэс беларускай моладзі аказаўся пад пагрозаю зрыву. Увечары 25 ліпеня на сустрэчы з арганізатарамі Кангрэса прадстаўнік Мінгарвыканкама заявіў, што ў зале і вестыбюлі Дома культуры «Сукно», дзе мае адбыцца Кангрэс, абавязкова мусяць прысутнічаць не менш за 20 міліцыянтаў. Мінгарвыканкам патрабуе ад арганізатараў Кангрэса беларускай моладзі аплаціць паслугі міліцыянтаў, якія ацэненыя ў кругленькую суму – 800 тысячаў беларускіх рублёў.

«Патрабаванне Мінгарвыканкама можна расцаніць як сапраўдную паніку ўладаў перад палітычна актыўнай моладдзю. Рэжым настолькі баіцца маладых, калі яны разам, што гатовы выставіць міліцыянта з дубінкай ля кожнага шэрагу крэслаў Кангрэса», — заявіў каардынатар аргкамітэта Павел Севярынец. Ён адназначна заявіў, што арганізатары не пагодзяцца на «непрыхаваныя паліцэйскія ўмовы правядзення Кангрэса».

Пра свой удзел у Кангрэсе ўжо заявілі Уладзімір Ганчарык, Сямён Домаш, лідэры апазіцыйных партыяў і грамадскія дзеячы, дзеячы спорту і мастацтва.

**Рыгор БУЯН**

## Марыніч не хоча быць паслом

Міхаіл Марыніч здымае з сябе паўнамоцтвы Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла Рэспублікі Беларусь у Латвіі і, па сумяшчальніцтве, у Эстоніі і Фінляндыі.

Нагадаем, што рашэнне М.Марыніча выставіць сваю кандыдатуру на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах выклікала рэзка негатыўную рэакцыю з боку Аляксандра Лукашэнкі.

У заяве М.Марыніча на імя віцэ-прэм'ера — міністра замежных справаў Беларусі Міхаіла Хвастова гаворыцца: «Не лічачы магчымым апраўдваць сістэму дыктату, дэградацыю эканомікі, якая вядзе да галечы людзей, знікненне простых палітыкаў і простых людзей, сталае парушэнне правоў і свабодаў грамадзянаў, міжнародную ізаляцыю Беларусі, я ўступіў у выбарчую кампанію па выбарах прэзідэнта краіны. На жаль, ход кампаніі паказвае, што выбары не могуць быць сумленнымі і празрыстымі, калі ўлада, нераўнуючы на метады, устараняе непажаданых кандыдатаў. Няглядзячы на жорсткі ціск, я лічу неабходным працягваць актыўную палітычную дзейнасць на карысць дэмакратычных пераўтварэнняў Беларусі. Я здымаю з сябе паўнамоцтвы і прашу прыняць маю адстаўку».

М.Марыніч не выключыў, што ў выпадку адмовы ў рэгістрацыі яго кандыдатам у прэзідэнты ён возьме ўдзел у працы на адзінага кандыдата ад шырокай грамадзянскай кааліцыі — лідэра Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Уладзіміра Ганчарыка. Ён таксама заклікаў усіх «людзей цвярозага розуму» падтрымаць адзінага дэмакратычнага кандыдата на маючых адбыцца выбарах.

**Юрый ПАЦЁМКІН**

## Інвестыцыі для Магілёўшчыны

25 ліпеня ў Магілёве прайшлі перамовы старшыні Магілёўскага аблвыканкама Барыса Батуры з прадстаўнікамі галандскай кампаніі «*Eurogrit*», а таксама нямецкіх канцэрна «*Thussen kroupp*» і карпарацыі «*Henkel*».

На сустрэчы абмяркоўваліся магчымасці інвесціравання бізнесменамі Германіі і Галандыі эканомікі Магілёўскай вобласці. У прыватнасці, галандскі бок зацікавіўся пытаннямі будаўніцтва прадпрыемства па вытворчасці мінеральнага і стальнога шроту. Гаворка ідзе аб суме ў 2-2,5 мільёнаў долараў ЗША. А кампанія «*Henkel*» мае намер вывучыць мэтазгоднасць стварэння ў Магілёве прадстаўніцтва для забеспячэння сыравінай прадпрыемстваў Беларусі, Украіны і краінаў Балтыі.

**Канстанцін УВАРАЎ**

СУД

## Суд над Віннікавым — праз паўмесяца

Крымінальная справа ў адносінах да Сяргея Віннікава, сына былой старшыні Нацыянальнага банка Беларусі Тамары Віннікавай, перададзеная ў суд Цэнтральнага раёна Мінска. Па словах старшыні суда Пятра Кіркоўскага, працэс пачнецца не раней, чым праз два тыдні — прыкладна ў першай дэкадзе жніўня.

С.Віннікаў і яшчэ тры чалавекі абвінавачваюцца ў незаконным абароце наркатычных сродкаў — частка 3 артыкула 328 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Ім пагражае ад 5 да 10 гадоў пазбаўлення волі. С.Віннікаў быў затрыманы ў Мінску 21 сакавіка гэтага года і абвінавачаны ў спробе збыцця 5 грамаў гераіну. Падчас следства, як сцвярджаюць супрацоўнікі праваахоўных органаў, былі ўстаноўленыя і іншыя эпізоды збыцця наркотыкаў.

Трэба адзначыць, што арышт С.Віннікава супаў па часе з пачаткам публікацыі ў сродках масавай інфармацыі шматлікіх артыкулаў і інтэрв'ю яго маці, якая зараз знаходзіцца на эміграцыі. Затым Т.Віннікава раптам перапыніла публікацыю сваіх артыкулаў і інтэрв'ю, а таксама кнігі, у якіх выкрыла непрыстойнасць многіх высокапастаўленых беларускіх чыноўнікаў. Экс-кіраўнік Нацбанка Беларусі растлумачыла гэта тым, што на яе адрас і адрас яе сваякоў пачалі паступаць пагрозы і папярэджанні аб расправе.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Хто заплаціць за дзірку ў нафтаправодзе?

Сума стратаў, нанесеных водным рэсурсам Камянецкага раёна ў выніку дывэрсіі на нафтаправодзе «Дружба» 7 ліпеня, складае больш за 37 мільёнаў рублёў. Пра гэта паведамілі ў Брэсцкім абласным камітэце прыродных рэсурсаў і навакольнага асяроддзя.

На пачатку ліпеня была выяўленая ўцечка нафтапрадуктаў. Высветлілася, што невядомыя зламыснікі прасвідравалі дзірку ў трубе. Да моманту выяўлення ўцечкі нафтапрадукты трапілі ў меліярацыйны канал і на калгаснае поле. Больш за трое з палавай сутак працягваўся збор нафты. У выніку было сабрана каля 95 працэнтаў, або прыблізна 8 тонаў.

Разлікі і дакументы з патрабаваннем кампенсаваць страты ў названай суме ўжо накіраваныя на імя генеральнага дырэктара рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства «Гомельтранснафта «Дружба». Калі прадпрыемства пагодзіцца кампенсаваць страты, то 60% ад гэтай сумы пойдуць у бюджэт Камянецкага раёна і павінны быць патрачаныя на прыродаахоўныя мерапрыемствы. Апрача таго, Камянецкі РАУС займаецца пошукам зламыснікаў, супраць якіх узбуджаная крымінальная справа. Не выключана, што ім таксама давядзецца кампенсаваць учыненую шкоду.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

АКЦЫ



Фота IREX/ProMedia

Генерал Джозеф Ролстан, Вярхоўны камандуючы аб'яднанымі войскамі *NATO* ў Еўропе і Галоўнакамандуючы Узброенымі сіламі ЗША у дзень адкрыцця рэканструяванага будынка Цэнтра па пераліванні крыві ў Гомелі. Мэтай праекта, на які Камандаванне Узброеных сілаў ЗША выдаткавала блізу 420 тысячаў долараў, а бюджэт Гомельшчыны – 59 тысяч, ёсць рэстаўрацыя пабудовы, узведзенай каля ста гадоў таму, а таксама стварэнне там сучаснага Цэнтра па пераліванні крыві. На цырымоніі прысутнічаў Майкл Козак, пасол ЗША ў Беларусі

ЗАКОН

## Подпісы збіраліся пад прымусам

26 ліпеня ініцыятыва «Незалежнае назіранне» распавяла журналістам пра найбольш тыповыя парушэнні заканадаўства ў часе збору подпісаў з боку ініцыятыўных групаў прэтэндэнтаў. Першынство па парушэннях трывала заняла каманда А.Лукашэнкі.

Сустаршыня «Незалежнага назірання» Мечыслаў Грыб разбіў 240 зафіксаваных фактаў парушэнняў на ўмоўна некалькі групаў. Найбольш масавыя парушэнні назіраліся з боку выканаўчай улады, калі на месцах ад зборшчыкаў не прымалі подпісы ці адмаўляліся выдаваць квіткі пра колькасць прынятых подпісаў. На другім месцы па масавасці стаяць беспадстаўныя затрыманні актывістаў ініцыятыўных групаў.

Бывала, што збор подпісаў на вуліцы, калі побач са зборшчыкам знаходзіўся партрэт прэтэндэнта, расцэньваўся як несанкцыянаваны пікет, у людзей адбіралі дакументы, подпісы – гэта «абсалютна не адпавядае дзеючаму заканадаўству».

«Мы зафіксавалі вельмі шмат грубейшых парушэнняў. Можна гаварыць пра тое, што выбарчая кампанія ідзе з грубейшымі парушэннямі заканадаўства. Улады ўжо на гэтым этапе робяць усё дзеля фальсіфікацыі выбараў», – заявіў Мечыслаў Грыб.

**Рыгор БУЯН**

## Мінскія пажары

Сёлета за паўгоддзе па Мінску здарылася 669 пажараў, у выніку якіх загінула 43 чалавекі, у тым ліку 2 дзіцяці. У параўнанні з адпаведным перыядам 2000 года колькасць пажараў скарацілася на 16%, але колькасць смерцяў ад іх павялічылася амаль удвая.

Са словаў начальніка Гарадскога ўпраўлення міністэрства па надзвычайных сітуацыях Валянціна Капрыцкага, у цывілізаванай Швейцарыі з пажарамі такая ж сітуацыя, аднак смяротных зыходаў на працягу года не больш за 30 выпадкаў. Адна з прычынаў павелічэння смяротнасці крыецца ў пастаяннай алкагалізацыі беларускага грамадства: 23% пажараў здарыліся з прычыны п'янства, і з 43 загінуўшых – 34 былі ў нецвярозым стане.

Па дадзеных Гарадскога ўпраўлення МНС, 43% пажараў здараецца на прадпрыемствах і арганізацыях, 71% загінуўшых – мужчыны (большасць з іх працаздольныя) і толькі 29% – жанчыны (пераважна пенсіянеркі), а на працягу тыдня пік смяротных выпадкаў прыпадае на сераду.

Увогуле за першыя 6 месяцаў 2001 года ў сталіцы мелі месца 374 іншыя аварыйныя сітуацыі, 52 з якіх – уцечка выбуховых і атрутных рэчываў, 14 выпадкаў падтаплення і нават мелі месца ратаванні хатніх жывёлаў і ловы змеяў.

**Алена ЛАБАНАВА**

## Позвы з нябеснай канцылярыі

Моцныя навальніцы ліпеня прынеслі шмат клопату гаспадарнікам Мінска. Неадназова тралейбусы і трамваі спыняліся з-за таго, што ліўневая каналізацыя не спраўлялася з патокамі дажджавой вады. У сталіцы, прынамсі, 14 месцаў, дзе для бяспекі пасажыраў электратранспарт мусіў спыняцца.

А ўночы 26 ліпеня, у 2.30, была выведзеная са строю 64-ая цягавая падстанцыя. Навальніцай выбіла два кабелі. У выніку раён падстанцыі, тры ўчасткі, аказаліся на абслугоўванні аднаго кабеля. Зараз непаладкі тэрміновым парадкам ліквідуюцца. Гораду таксама патрэбна прывесці дажджавыя сцёкі ў належны стан, бо сёлета як ніколі выявілася, што іх магутнасці не адпавядаюць патрабаванням бяспекі.

**Ульрыка ГАТАЛЬСКАЯ**

## «Бізон» не давярае Беларусі

55 новых польскіх зернеўборачных камбайнаў «Бізон», пра пастаўку якіх на сёлетняе жніво ў Брэсцкай вобласці «трубілі» яшчэ з вясны, усё яшчэ не пакінулі тэрыторыю зборачнага завода ў горадзе Плоцку. На «прыколе» застаюцца і яшчэ амаль 200 «стэпавых караблёў», загадзя заяўленых Мінскай, Магілёўскай і Гродзенскай абласцямі.

Не спадзеючыся атрымаць з Беларусі цвёрдую валюту, партнёры з суседніх краінаў пагадзіліся на ўмовы 4-гадовай растэрміноўкі сумы кантракту і нават часткова пагашэння яе намалочаным зернем. Пры гэтым мелася на мэце не забіраць прадукт на Захад, а рэалізаваць на месцы, напрыклад, кампаньёнам у дрэваапрацоўцы.

«Бізон»да цяперашняга часу не атрымаў разлік па мінулым годзе, а таму не хоча рызыкаваць і сёлета.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**



ФАЎНА

## Суседзяў палохае шаленства на Беларусі

Міжнароднае эпізаатычнае бюро (МЭБ), у функцыях якога кантроль над небяспечнымі эпідэміямі ў свеце, выказвае заклапочанасць адносна актывізацыі шаленства ў Беларусі. На працягу года да спецыялістаў за антырабічнай дапамогай звяртаюцца амаль 25 тысяч беларусаў. Прычынамі іхніх захворванняў з'яўляюцца кантакты з лясными жывёламі альбо пакусанымі імі сабакамі, катамі, каровамі.

Дзікая фаўна магла б не быць такім агрэсіўным узбуджальнікам хваробы, калі б выконваліся захады прафілактыкі: адстрэл і вакцынацыя праз кармавыя прынадкі. Але, прыкладам, на Брэстчыне гэтыя адмысловыя лекі былі падкінутыя ўсяго на 0,01% лясной тэрыторыі, дзе зарэгістраваныя выпадкі шаленства ваўкоў, лісаў, янотаў. Між тым зараз Польшча, Літва і Латвія прызналі неабходным стварэнне імуннага фону (буфернай зоны) на памежных тэрыторыях. На глыбіню 100 кіламетраў ад Беларусі штогод будзе праводзіцца кармавая імунізацыя драпежных жывёлаў.

**Галіна БАРАВАЯ**

СІЛАВІКІ

## Дазваніцца да міліцыі стане лягчэй

Як паведаміў начальнік Галоўнага ўпраўлення ўнутраных справаў Мінгарвыканкама Аляксандр Рак, зараз у сталіцы міліцэйскую службу «02» абслугоўваюць усяго толькі 6 апаратараў.

Гэта замала для такога вялікага горада, як Мінск. Менавіта недастатковай колькасцю «02»-апаратараў А.Рак і вытлумачыў тое, што менчукам часта бывае дужа складана дазваніцца ў міліцыю. Але ён давёў, што бліжэйшым часам плануецца павялічыць аператарскі склад службы «02» у некалькі разоў. Абяцацца, што ў выніку выйсці на сувязь з міліцыяй у самы так званы «час пік» можна будзе прыкладна праз 3 хвіліны. Хоць і гэты тэрмін падаецца задоўгім.

**Алесь КАТОВІЧ**

СОЦЫУМ

## Не зважаючы на колер скуры

Грамадскае аб'яднанне «Гуманітарная асацыяцыя «Славянскі Дом» прыступае да рэалізацыі праекта «Аказанне псіхалагічнай дапамогі ў Беларусі дзецям і сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей іншай расы». Асноўная мэта — дапамагчы дзецям іншай расы адаптавацца ў грамадстве, разняволіцца, усвядоміць уласную значнасць.

Як зазначаюць арганізатары, у Беларусі жывуць каля 300 дзяцей з чорным колерам скуры. З іх толькі 15% выхоўваюцца ў сем'ях, астатнія — у дзіцячых дамах і школах-інтэрнатах для дзяцей-сірот.

Праект будзе рэалізоўвацца з 9 па 29 жніўня ў дзіцячым аздараўленчым лагеры «Зубраня». Яго ўдзельнікамі будуць 25 падлеткаў 11-15 гадоў, з якімі будуць праводзіцца сеансы індывідуальнай карэкцыі і трэнінгу па міжасабовым узаемадзеянні і вырашэнні канфліктаў.

Свабодныя месцы для ўдзелу ў праекце яшчэ ёсць, кошт пуцёўкі сімвалічны — 3 тысячы беларускіх рублёў. Тым, хто па якіх-небудзь прычынах не зможа трапіць у цяперашні заезд, прапануецца ўзяць удзел у наступным этапе праграмы, які пройдзе ў кастрычніку гэтага года. Коля яго ўдзельнікаў будзе значна пашыранае — да 150 чалавек.

Жадаючым прапануюць звяртацца на адрас: а/с 104220140, г.Мінск, Беларусь, або па электроннай пошце: *larissa@iatp.unibel.by*

**Наталля КУЛАГІНА**

СТЫХІЯ

## Ліўневая шкода

У ноч на 24 ліпеня на тэрыторыі Беларусі зноў прайшлі ліўневыя дажджы, якія суправаджаліся моцнымі навальніцамі і шквалістым ветрам.

У выніку стыхіі пацярпелі 13 раёнаў Мінскай вобласці, у тым ліку Нясвіжскі, Валожынскі, Салігорскі, Клецкі, Мядзельскі, Вілейскі, Стаўбцоўскі, Слуцкі, Старадарожскі, Смалявіцкі, Узденскі, Барысаўскі і Капыльскі. Тут пацярпелі ўвогуле 241 жылы дом, 48 жывёлагадоўчых фермаў і 113 іншых сельскагаспадарчых і вытворчых будынкаў, былі адключаныя 297 трансфарматарных падстанцыяў, абясточаныя 275 населеных пунктаў, пашкоджана тэлефонная сувязь на 12 АТС. У Барысаве падтопленыя чыгуначныя пуці, адключанае водазабеспячэнне. На тэрыторыі вобласці пашкоджана 23.701 гектар пасеваў.

На тэрыторыі Асіповіцкага раёна Магілёўскай вобласці сарваны дахі з 4 жывёлагадоўчых фермаў, пацярпелі 8 іншых вытворчых і сельскагаспадарчых будынкаў. Былі адключаныя 26 трансфарматарных падстанцыяў, абясточаны 14 населеных пунктаў.

У Гродзенскай вобласці пацярпеў Дзятлаўскі раён. З дахаў 9 сельскагаспадарчых будынкаў і трох фермаў сарвана 670 лістоў шыферу. Таксама пацярпелі 7 раёнаў Віцебскай вобласці — Полацкі, Лепельскі, Чашніцкі, Мёрскі, Сенненскі, Бешанковіцкі, Ушацкі. Былі абясточаныя 246 населеных пунктаў.

**Юрый АЛЯКСЕЕЎ**

# Memento mori,

## або Шэраговая думка шэраговага беларуса

*Днямі на могілках бачыў нешта такое, ад чаго цудам крыша не паехала. А канкрэтна, помнік знаёмаму з выявай яго персоны ў граніце, з якім учора размаўляў за келіхам піва. І ён распавёў пра тое, што жонка яго памерла.*

А зараз, атрымоўваецца, што і ён. А з кім жа я тады размаўляў.

Падзяліўся сумневам з бабулькай, якая фарбавала агароджу на дзедавай магілцы, і тая супакоіла: зараз многія так робяць, ставяць помнік па блізкім нябожчыку (нябожчыцы), а заадно і сабе на агульным слупку, пакідаючы свабодным радок, у якім пішацца дата смерці. Маўляў, так танней. Ды і невядома яшчэ, ці будзе, прыкладам, у радні дастаткова грошай, каб пахаваць нябожчыка. А больш канкрэтна прагучала так (вельмі дасведчаная бабулька): калі чалавек збірае сабе грошы на пахаванне, то мяняе беларускія на долары і хавае іх як мага далей нават ад радні. Бо час такі, што ўсе жывуць бедна, а ад гэтага зайздрасць. Забіць радня за долары можа і не заб'е, але адносіны бедных сваякоў да «багатага» кандыдата ў нябожчыкі могуць сапсавацца. Ну чужыя, яны ведама якія зараз. Не тое што за сто долараў могуць забіць, а нават за пляшку самагонкі.

З гэтай нагоды ўспомнілася, як аднойчы адзін з намеснікаў міністра фінансаў Беларусі сказаў журналістам, што адзіная яго мара — назапасіць грошай на ўласнае пахаванне.

Разумець трэба так, што нават для яго гэта складаная задача. А што тады казаць пра іншых. Возьмем, прыкладам, два асноўныя паказчыкі, з дапамогай якіх вызначаецца ўзровень дабрабыту нашага грамадства. Што тычыцца, прыкладам, мінімальнай зарплаты, дык той, каму прыходзіцца плаціць штрафы дзяржаве, лічыць яе занадта вялікай. А асноўную сваю функцыю дзяржаўнай гарантыі работніка ў галіне працоўных адносінаў яна не выконвае, таму што яе памер знаходзіцца на ўзроўні ніжэй самага мінімальнага. Карацей, зарплата як лата.

Але існуюць і іншыя нарматывы. Прыкладам, мінімальны спажывецкі бюджэт (МСБ) існаваў яшчэ ў СССР і ў 1988 годзе ацэньваўся ў 105 рублёў. Каля паловы яго складалі расходы на харчаванне, амаль 20% — на прамысловыя тавары, астатняе – на розныя паслугі. На задавальненне духоўных патрэбаў заставаліся 3 «полновесных рубля».

Спецыялісты лічылі, а з імі пагаджаліся амаль усе, мінімальныя гарантыі дзяржавы павінны быць такімі, каб любая асоба магла дастойна жыць нават пры мінімальным узроўні прыбыткаў. Вядома ўсім, чым закончылася так званая перабудова. Але для нас галоўнае, што з першага суверэннага дня кіраўніцтва Беларусі заявіла аб прыярытэце сацыяльнага развіцця асобы перад усім. Таму пачалі з разліку ўласнага МСБ, і па сваёй структуры ён быў родным братам таго, савецкага. Гэта апраўдвалася часовымі цяжкасцямі, але лічылася, што ў памеры МСБ даход павінен мець кожны ад немаўля да пенсіянера. Таму, у каго прыбыткі меншыя, гарантавалася дапамога дзяржавы. А атрымалася так, што нават не кожны работнік меў такую зарплату.

Вось такая сацыяльная эфектыўнасць нашай эканомікі. Але кіраўніцтва, а яно было ўжо новым, турбавала іншае. Паколькі мінімальны спажывецкі бюджэт ва ўсім свеце лічыцца афіцыйнай рысай беднасці, то атрымоўвалася, што ў нас усе жабракі. А гэтага нельга было дапусціць ні ў якім выпадку. Таму планку вырашылі апусціць, вызначыўшы рысай беднасці кошт 60 працэнтаў МСБ. Назвалі новы нарматыў бюджэтам пражытачнага мінімума і «навукова абгрунтавалі», колькі, чаго і для каго ў ім павінна быць. Бо зразумела, што патрэбы ў калорыях розныя ў мужчыны і жанчыны, у старых і малых.

У кожны канкрэтны набор уключылі прадукты ад хлеба да солі і вызначылі, што, прыкладам, для падтрымкі працаздольнасці мужчыне патрэбна ў суткі: 3,8 г каўбасных вырабаў і вяндліны, 45,1 г ялавічыны, 10,4 г свініны, 7,7 г субпрадуктаў і 63,7 г птушкі. І ні кроплі гарэлкі. Такая дакладнасць і па іншых прадуктах харчавання і прамысловых вырабах. І што атрымалася? У наборы прадметаў гардэроба для жанчыны, прыкладам, прадугледжаныя на год — 7 пар калготак, 6 пар трусоў (панталонаў) і 2 бюстгальтэры. А паліто зімовае павінна служыць беларускай модніцы 8 гадоў, спадніца, джэмпер (світэр), спартыўны касцюм — 5 гадоў. Таму, беларускі мужчына, калі ўсё гэта ёсць у яго жонкі, не павінен прымаць ад яе ніякіх нараканняў кшталту: ты ўсё маё жыццё загубіў!.. А калі гэта ўсё ёсць і ў яго — толькі замест спадніцы — штаны ды гумавыя боты, якія павінны служыць 10 гадоў, то ён мае ўсе падставы лічыць сябе чалавекам даволі багатым.

Для поўнага багацця тады не хапае нейкай там дробязі. Бо пагадзіцеся, што калі дзіцяці-школьніку на год «положено» нешта накштальт трох алоўкаў, то гэта на самой справе дробязь.

Такім чынам, як мяркуе кіраўніцтва краіны, для дабрабыту шэраговага беларуса яму дастаткова атрымліваць «продовольственно-вещевое содержание» на ўзроўні турэмнага вязня. Праўда, апошні атрымоўвае «пайку» бясплатна і яго ніхто не вымушае хваліць уладу за шчаслівае жыццё. У дадатак, вязняў, як і прэзідэнтаў, увогуле пасцюдна хаваюць за казённы кошт.

А астатнім прыходзіцца думаць аб уласнай смерці. Ці не з самага пачатку жыцця...

**Канстанцін СКУРАТОВІЧ**

## Найважнейшыя паказчыкі не выкананыя

Шэраг найважнейшых макраэканамічных паказчыкаў развіцця беларускай эканомікі не выкананы ў першым паўгоддзі гэтага года.

Паводле звестак міністэрства статыстыкі і аналізу, тэмпы росту прамысловай вытворчасці склалі 4,1 працэнта ў параўнанні з аналагічным леташнім перыядам (прагноз — 4,5-5,5 працэнта), вытворчасці спажывецкіх тавараў — 2,8 (3,5-4,5), аб'ёмаў платных паслугаў насельніцтву — 0,8 (3-4). Інвестыцыі ў асноўны капітал знізіліся на 3,2 працэнта (па плану — рост на 3,5-4,5 працэнта), аб'ём знешняга гандлю (за студзень-май) — на 2,8 працэнта (рост на 2,8-3,8 працэнта). Матэрыялаёмістасць валавога выпуску павялічылася на 0,3 працэнта (па плане — зніжэнне на 0,6-0,8 працэнта).

Рост валавога ўнутранага прадукту склаў 3 працэнты (па плане — 3-4 працэнты), аб'ёму сельскагаспадарчай вытворчасці — 6,9 працэнта (4,5-5,5), экспарту — 6,2 працэнта (3,7-4,8), грашовых даходаў насельніцтва — 21 працэнт (3,5-4,5), рознічнага таваразвароту — 16,8 працэнта (4,5-5). Энергаёмістасць ВУП знізілася на 4,5 працэнта (па плане — на 2,3-3 працэнта). Уведзена ў эксплуатацыю 1 млн. 399 тыс. квадратных метраў жылля (50,9 працэнта ад гадавога задання).

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

## Цукар будзе?

Па выніках першага паўгоддзя 2001 года, падведзеных міністэрствам гандлю, беларусы сталі менш спажываць піва, мяса, рыбы, малака, садавіны і гародніны, а таксама менш купляць пральняў, пыласосаў, лядоўняў, магнітафонаў і тавараў лёгкай прамысловасці.

Са словаў міністра гандлю Рыгора Краўчанкі, цукар у гандлёвую сетку трапляе згодна з графікам – пры норме 500 тонаў на дзень рэальныя пастаўкі перавышаюць 1.500 тонаў. Звычайна ў ліпені попыт насельніцтва краіны на цукар не больш за 15-17 тысяч тонаў, а сёлета яго ўжо рэалізавана 30 тысяч. Да таго ж у Беларусі цукар танней за астатнія краіны: напрыклад, кілаграм цукру ў Мінску каштуе 0,46 долара, а ў Маскве – 0,63 долара. Але, як запэўніў міністр гандлю, на цукар айчыннай вытворчасці кошты падвышацца бліжэйшым часам не будуць, а становішча з цукрам па краіне «стабілізуецца і бліжэйшым часам будзе знятае».

**Алена ПАЗЬНЯК**

## Падманутым укладчыкам ідуць насустрач

Банк «БелБалтыя», Савет міністраў і Нацыянальны банк Беларусі прынялі спецыяльную пастанову аб працягу да 1 жніўня прыёму заяў ад укладчыкаў аб скасаванні дагавораў з ТАА «БелБалтыя». Заявы прымаюцца па адрасах у Мінску, Брэсце, Пінску, Баранавічах і Гродне, якія былі раней аб'яўлены. Як паведаміла ўпраўленне інфармацыі Нацбанка, гэта зроблена ў сувязі з запытамі, якія паступаюць ад укладчыкаў «БелБалты».

З 15 жніўня па 1 верасня ўкладчыкі могуць звяртацца ў ААБ «Беларусбанк» для заключэння дагавораў па пераводу запазычанасці. На фізічных асобаў, якія падалі заявы ў гэтыя дні, складаецца дадатковы рэестр, які перадаецца «Беларусбанку» да 15 жніўня.

Нагадаем, што 15 ліпеня гэтага года Гаспадарчы суд Мінска прызнаў ТАА «БелБалтыя» банкрутам, у адносінах да банка распачата ліквідацыйная вытворчасць. Нацбанк на падставе пададзеных заяў склаў рэестр укладчыкаў, які перададзены ў «Беларусбанк» для наступнай выплаты ім грашовых сродкаў у поўным аб'ёме, як гэта прадугледжана пастановай урада і Нацбанка ад 1 сакавіка 2001 года. Была створана спецыяльная камісія, якая разглядае заявы грамадзян у адпаведнасці з Правіламі датэрміновага звароту грашовых сродкаў фізічным асобам. Яна размешчана па адрасе: Мінск, вул. Мяснікова, 32.

Прынята таксама рашэнне аб павелічэнні складу камісіі з пяці да сямі чалавек: трое прадстаўнікоў Нацбанка і чатыры – «Беларусбанка». Акрамя таго, як паведаміла ўпраўленне інфармацыі Нацбанка, у вышэйзгаданыя Правілы ўнесены змяненні і дапаўненні, згодна з якімі ўкладчыкам, што заключылі дагавор з ААБ «Беларусбанк» і якія дасягнулі па стане на 1 ліпеня 2001 года 70-гадовага ўзросту, будуць ажыццяўляцца выплаты ў поўнай суме запазычанасці, уключаной у рэестр укладчыкаў, на працягу аднаго месяца з часу прыняцця станоўчага рашэння.

Заявы і іншыя дакументы ад укладчыкаў, неабходныя для прыняцця рашэння аб датэрміновым звароце грашовых сродкаў, на падставе адпаведнай пастановы накіроўваюцца ў філіялы ААБ «Беларусбанк» па месцы жыхарства ў аддзел па працы з фізічнымі асобамі.

**Наталля КУЛАГІНА**

ЛЮСТРА



Фота IREX/ProMedia

Лепш стаяць у возеры, чым на дойцы

# Лагерь Валленштейна под Серноводском

*В начале XVII века австрийский генерал Валленштейн предложил австрийскому императору замечательное решение. Если государству не хватает денег на профессиональную армию, это не беда: армия будет содержать себя сама. Каким способом? Очень простым — грабить население на оккупированных территориях*

Войско Валленштейна прошлось по Чехии и другим областям Германской империи, наводя ужас не столько на противника, сколько на мирных жителей. Позднее великий немецкий поэт Шиллер с большой симпатией описал этих бандитов в пьесе «Лагерь Валленштейна». Правда, кончилось все плохо: спустя некоторое время в Германии высадились шведские войска. Состояли они преимущественно из финских парней, набранных в деревнях по призыву. Дисциплина у них была железная, никаких грабежей и насилия над населением. Войско Валленштейна стало терпеть неудачу за неудачей, а сам выдающийся полководец решил переметнуться на сторону победителя, но был разоблачен и убит (о чем Шиллер тоже написал с большой симпатией в трагедии «Смерть Валленштейна»).

Зачем нам все эти исторические экскурсы? А затем, чтобы понять, насколько безумной и самоубийственной является нынешняя практика российской власти — и по отношению к Чечне, и по отношению к собственной армии. Сегодня факты мародерства признаются уже официально. Это стало возможно лишь потому, что мародерство приняло действительно массовые масштабы. К тому же нынешним летом громили и грабили не горную Чечню, а Серноводск и другие северные поселки, традиционно считающиеся пророссийскими. В таких случаях у нас принято говорить, что президента «подставили». Странное у нас государство: со времен Ивана Грозного до Путина оно только и делает, что «подставляет» своих руководителей. Причем руководители, в свою очередь, за подобное никого не наказывают, а, наоборот, поощряют.

По данным прессы, на начало лета за все время войны до суда было доведено всего 11 уголовных дел против российских военнослужащих. Возбуждалось куда больше, но дела тут же закрывали, заминали. Фактически это равнозначно официальному разрешению на грабеж и насилие.

Надо сказать, что даже нацистская Германия активнее боролась с мародерством на оккупированных территориях. Дело, разумеется, не в гуманном отношении к мирным жителям. Просто гитлеровцы понимали: армия, которая начинает грабить, разлагается. Если разрешить солдатам мародерствовать, государство скоро останется без армии, которая превратится в сборище небоеспособных бандформирований. У Гитлера грабеж и насилие были строго централизованы. Это была монополия государства.

Современная Россия свято верит в частную инициативу, особенно в области разбоя и грабежа. К тому же у нас государство бедное — оно все отдало своим олигархам и чиновникам, так что на приличное содержание всего остального денег просто нет. В этом смысле смешны призывы нашей либеральной интеллигенции к профессиональной армии. Армия не может быть лучше защищаемого ею государства. Отдельные военные — могут. Но речь же идет о системе! Что такое российский контрактник-наемник в Чечне, уже все видели. Нравы, типичные для люмпенизированных контрактников, разумеется, понемногу становятся нормой для всей армии, заражая и призывников. И все же сейчас, пока в армию призывают деревенских мальчишек и безработных городских парней, по стране бродят пять полков дезертиров. Если нынешнее Российское государство со свойственными ему методами и этическими нормами всерьез возьмется за создание профессиональной армии, по стране будут бродить уже сорок дивизий вооруженных бандитов.

Впрочем, разложение армии происходит в любом случае. Чечня — это безостановочно действующий механизм уничтожения Российских вооруженных сил, которые деморализуются, утрачивают чувство ответственности, коррумпируются.

Российское общество все еще с трудом понимает, на краю какой пропасти оно находится. Не о Чечне речь, товарищи и господа, а о России. Не о них, а о нас. Чечню мы уже потеряли. Сейчас нам грозит потерять армию.

Чем труднее справиться с вооруженным сопротивлением в Чечне, тем больше грабят мирное население, тем больше насилий над теми, у кого в руках нет оружия. Чем больше расправ над мирными жителями, тем сильнее вооруженное сопротивление, тем серьезнее неудачи армии. Порочный круг. И разомкнуть его своими силами государство не сможет. Точно так же, как не смогут и военные. Победить они не в состоянии, а уйти из Чечни по собственной инициативе им никак невозможно.

Единственный выход — в развитии антивоенного движения, которое было бы способно принудить власть к тому, чтобы пойти навстречу здравому смыслу.

Увы, пока события развиваются по иному сценарию. Правительство не чувствует давления снизу. Оно продолжает воевать, обрекая страну на унижение бесконечных военных неудач, а армию — на разложение. Между тем униженная и разложившаяся армия — далеко не самая безопасная сила. Большая часть мятежей и военных переворотов совершалась не военными, с победой вернувшимися домой, а генералами и офицерами, утратившими ответственность перед страной. Что, как правило, случается в результате поражения в бессмысленной войне.

После Первой мировой войны в Венгрии говорили, что генералы так держатся, как будто не проиграли войну, а завоевали полмира.

История Валленштейна поучительна не только своим началом, но и своим концом. Чем более армия разложилась, чем более она деморализована и коррумпирована, тем сильнее опасность мятежа.

Как известно, мятеж не может кончиться удачей — в противном случае его называют иначе.

**Борис КАГАРЛИЦКИЙ**

**Ng.ru**

# На «Славянском базаре» выступило трио президентов

*На закрытие музыкального праздника в Витебск прилетели А.Лукашенко, В.Путин, Л.Кучма. «Двойственные» и «тройственные» «встречи без галстуков» проходили в президентской резиденции «Крупенино» на берегу живописного лесного озера.*




Похоже, ни Путин, ни Кучма не собирались выступать на финальном гала-концерте, посвященном дружбе народов России, Украины и Беларуси, с речами. Путина в это время в Москве ждала советник по национальной безопасности президента США Кондолиза Райс для окончательной договоренности о механизме пересмотра или отказе от договора по ПРО 1972 года. Вместо этого президент России двенадцать часов просидел с Лукашенко и Кучмой в беседке, а потом смотрел на украинский гопак и белорусскую польку.

С Кучмой Путин якобы обсуждал вопросы торгово-экономических отношений и совместное празднование сначала Дня военно-морского флота в Севастополе, а затем – Дня независимости Украины в Киеве. С Лукашенко, согласно официальным сообщениям, беседовал о экономической деятельности постоянного комитета союзного государства. Все это вопросы, ради которых не летят самолетом в Витебск. Правда, впридачу «Александр Лукашенко рассказал президенту России об обстановке в республике в преддверии президентских выборов». Разумеется, Путин обладает информацией из более достоверных источников, а также в курсе тех многочисленных обращений не поддерживать нынешнего руководителя Беларуси в связи с подозрениями о причастности ответственных чиновников республики к исчезновению и возможному убийству политических оппонентов Лукашенко. Однако, это его не смутило, как не смутила такая предвыборная белорусская ситуация и Л.Кучму.

После отдыха в Крупенино трио президентов вышло на сцену фестивального амфитеатра для выступления перед публикой. Речи Путина и Кучмы были ужасающе скучны, просто вымученная импровизация на заданные учителем слова – «дружба», «искусства», «навсегда». Только Александр Лукашенко оживлял этот номер чрезмерной лестью гостям. Так, он заявил как бы для витебских зрителей, но трудно было быть неуслышанным и коллегам по власти:

«Витебск – город исключительно интернациональный. Славянский – это точно. И сегодня у вас – не один президент. Вы самые богатые люди – у вас три президента. Но – три президента только временно!»

В.Путин откровенное славянофильство официально не поддержал, подчеркнув, что «в этом белорусском городе собрались...».

Мелкие пикировки, однако, не отменяют того факта, что от тройственной встречи на «Славянском базаре» приобретает более всех Лукашенко, которому в сентябре предстоят перевыборы. Появившись на сцене с пустой речью, Путин поставил точку в вопросе, кого он поддерживает.

Витебская встреча была необходима и Кучме. По слухам, он сам предложил встречу с Путиным наедине. Кучме, который еще не отошел как следует от «кассетного» скандала, также предстоят парламентские выборы. И поскольку, судя по всему, Запад на Леонида Даниловича ставить не собирается, то ему надо опираться на поддержку Кремля. Поэтому все упомянутые выше обращения общественности к украинскому и российскому президентам остались без внимания.

Чтобы никто не испортил выступления высоких «славянских» гостей, витебская милиция задержала десяток активистов Молодого Фронта, которые в это время двигались по направлению к амфитеатру. Их доставили в райотдел, где расспрашивали о деятельности Молодого Фронта. Среди задержанных было пять минчан, а среди витебчан находился Андрей Каприков, который при открытии фестиваля развернул перед сценой национальный флаг, за что был беспощадно избит охраной, а потом и милицией. Теперь его ожидает суд.

Зато в ложу к трем «руководителям славянских государств» была допущена с букетом алых роз Алла Пугачева. Эту идиллическую сцену сопровождало пожелания ведущего, чтобы в будущем году президенты выступили в Витебске вновь – «в том же составе».

Такой оказалась предвыборная начинка проданного и купленного на «базаре» товара.

**Алина ДЕЦКАЯ**

**КАМПЕНСАЦЫЯ**

## Цыгарэтнае мецэнацтва

20 ліпеня 2001 года паміж Нацыянальным мастацкім музеем і тытунёвай кампаніяй *British American Tobacco* была падпісана дамова аб супрацоўніцтве, накіраваным на развіццё і падтрымку музея. «Здзейснілася тое, пра што я марыў 3 гады» – так пракаментаваў гэта дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў.

Нагадаем, што Нацыянальны мастацкі музей, які адзначаў у 1999 годзе сваё 60-годдзе, знаходзіцца на ўтрыманні дзяржавы і ягоны гадавы бюджэт не перавышае 250 мільёнаў рублёў. Галоўны будынак музея пабудаваны ў 1957 годзе, а з 1991 года ідзе прыбудова да музея новых плошчаў. Музейны фонд налічвае 25 тысяч карцінаў, але з-за адсутнасці экспазіцыйных плошчаў наведвальнікі могуць пабачыць толькі іх дзесятую частку. Для папаўнення свайго бюджэту музей ужо 4 гады здае свае плошчы ў арэнду англійскай амбасадзе для правядзення прыёмаў.

Цяпер афіцыйным спонсарам музея стала тытунёвая кампанія, якая пастаўляе на наш рынак такія маркі цыгарэтаў, як *Lucky Strike, Kent, Kim, Vogue, Pall Mall* і іншыя. Частка звышпрыбытку, заробленага на нашых звычках да тытунёвага дыму, цяпер будзе накіроўвацца ў сферу культуры.

Першым крокам ужо стала адкрыццё выставы «Сучасная беларуская графіка. Новыя набыткі Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь», якая працягнецца да 31 жніўня. У верасні ў памяшканні музея распачнуцца музычныя вечары для аматараў класічнай музыкі, узімку пройдзе Калядная выстава, а ў наступным годзе плануецца арганізаваць выставу твораў з калекцыі Траццякоўскай галерэі, тэатральныя праекты ў Мірскім замку, выставу графічных твораў Шагала і інш. Сродкі спонсараў таксама пойдуць на набыццё камп'ютэрнай тэхнікі, на рэстаўрацыйныя работы, на рэкламу, на выпуск каляровых буклетаў і альбомаў аб музеі і выставах у ім.

Як заўпэўніў і Уладзімір Пракапцоў, і мэнэджэр па знешніх сувязях *British American Tobacco* ў Беларусі Дэніс Гурыновіч, ніякіх захадаў па рэкламе цыгарэтаў у музеі праводзіцца не будзе. Адзіная ўмова спонсара – у друкаванай прадукцыі павінен стаяць стылёвы знак кампаніі. Дарэчы, у Расіі такім мецэнацтвам ужо карыстаюцца Траццякоўская галерэя і Рускі музей.

**Алена ЛАБАНАВА**

**СВЯДОМАСЦЬ**

## «Джордж Буш» супраць «Індыі»

На ўскрайку старажытнага Бамбея прайшла надта незвычайная цырымонія. Натоўп людзей зламіў нейкага валацужнага сабаку, каб правесці з яго удзелам міжнароднае мерапрыемства. Сабаку пасадзілі ў багата аздобленае крэсла і далі яму імя «Джордж Буш». Гэта стала адказам індыйскіх нацыяналістаў, глыбока абражаных тым, што кот амерыканскага прэзідэнта адгукаецца на імя «Індыя». «Калі Буш дазволіў сабе назваць свайго ката Індыяй, дык мы назавем сабаку Джорджам Бушам», — заявіў адзін з удзельнікаў гэтай помслівай акцыі.

На мінулым тыдні з-за клічкі амерыканскага прэзідэнцкага ката разгарэўся сапраўдны скандал, паведамляе *Reuters*. Каля амерыканскага консульства ў Бамбеі прайшла дэманстрацыя абураных нацыяналістаў, якія даведаліся з інтэрнэта, што кот мае імя «Індыя».

Прадстаўнік консульства растлумачыла пратэстантам, што поўнае імя чорнага ката амерыканскага прэзідэнта «*India Inc*», што азначае «туш». Аднак нацыянальна свядомых індыйцаў гэта ніяк не пераканала, і яны вырашылі ўзяць рэванш. «Як мы можам сцярпець абразу для Індыі? Буш не меў права так паступаць!», — упэўненыя ўдзельнікі ўрачыстага мерапрыемства па наданні адэкватнага імя адвечнаму кацінаму непрыяцелю.

**Эльза КУРЛОФ**

# Няма мовы, затое ёсць вера

*Сёлета мусіць вырашыцца пытанне, калі нарэшце ў Мінску распачнецца адбудова мячэці, знесенай сорак гадоў таму. Сталічная татарская абшчына чакае бліжэйшым часам прыезду спонсара, прадстаўніка дабрачыннай арганізацыі з Саудаўскай Аравіі, якая займаецца дапамогай у справе аднаўлення і пабудовы мячэцяў па ўсім свеце. Пры ўдалым развіцці падзеяў з ухвалай праекта аднаўлення старой мінскай мячэці, паводле ейных архіўных чарцяжоў, новая павінна будзе паўстаць на рагу вуліцаў Татарская і Грыбаедава, на што, як мяркуецца, пойдзе каля 1,5 мільёна долараў.*

Вось што распавёў пра гісторыю сталічнай мячэці віцэ-прэзідэнт Беларускага аб'яднання татараў «Памяць і кніга» Ібрагім Канапацкі. Яна паўстала ў 1902 годзе на грошы саміх вернікаў. Першы раз яна зазнала савецкага вандалізму ў 1936 годзе, калі яе зачынілі і ператварылі ў харчовую базу. Пасля Другой сусветнай вайны, падчас якой, дарэчы, мячэць была чынная, гэты будынак у «марской» Беларусі перадалі нейкаму Добраахвотнаму таварыству садзейнічання флоту. Праўда, пры гэтым у 1949 годзе ў мячэці не засталося парушыць купал і мінарэт. А ў 1962 годзе мячэць наогул знеслі бульдозерамі. Прыкладна ў той самы час – у 1967 годзе, відаць, да ўгодкаў Кастрычніцкай рэвалюцыі – у гэтым раёне сталіцы былі знесеныя і татарскія могілкі (услед за нямецкімі і габрэйскімі).

Цяпер на месцы мячэці ўзвышаецца гатэль «Юбілейны», які тутэйшыя татары называюць «шайтанскім домам». Так што аднаўляцца мячэць будзе не на, так бы мовіць, аўтэнтычным месцы, але з нацыянальнай прывязкай – на вуліцы Татарскай. Менавіта тут мінскімі гарадскімі ўладамі ў 1992 годзе выдзеленая пад будаўніцтва пляцоўка. З гэтага часу яна і пустуе, бо беларускія татары неабходных сродкаў на аднаўленне жаданай мячэці не маюць, а Мінгарвыканкам дапамагаць не збіраецца. Сталічныя ўлады гэтаксама ігнаруюць пытанне што да ўсталявання на «Юбілейным» помнага знаку.



Праект рэстаўрацыі мячэці ў вёсцы Даўбучкі

Зараз у Беларусі дзейнічаюць 7 мячэцяў. Гэтыя рэлігійныя збудаванні мусульманаў ёсць у Іўі, Смілавічах, Слоніме, Відзах (на Браслаўшчыне), Клецку, Навагрудку і Лоўчыцах. Мячэць у Лоўчыцах, самая старая ва Усходняй Еўропе, адрэстаўраваная трохі болей за месяц таму, у ёй яшчэ нават доўжацца аздабляльныя будаўнічыя работы. Між іншым, гэтыя мячэціны беларускія татары шануюць надзвычай, тут знаходзіцца цудадзейная магіла іхняга святога Эўліі Кантуся. Менавіта сюды прыязджаюць яны на Рамазан і розныя мусульманскія святы. Старэй хіба што толькі мячэць з вёскі Даўбучкі Смаргонскага раёна, перавезеная адтуль дзесяць гадоў таму ў Музей народнага дойлідства і побыту, што месціцца пад адкрытым небам у ваколіцах Мінска. Праўда, калі тое, што ад яе засталося, зараз так можна назваць мячэцяю: як яе тады перавезлі, гэтак і ляжыць яна, разабраная на бярвенні, і дагэтуль.

Зараз, паводле апошняга перапісу насельніцтва, у Беларусі жыве 10,8 тысячы татараў. У 1989 годзе было на 2,5 тысячы болей. А калісьці ў часы Вялікага Княства Літоўскага (наогул яны ў Беларусі ўжо цягам 6 стагоддзяў) іх налічвалася амаль у дзесяць разоў болей. Яны пачалі масава пасяляцца тут за Вітаўтам, часта дапамагаючы баранiць межы ВКЛ. Ставіліся да іх досыць спрыяльна, нездарма татары мелі тады звыш паўсотні мячэцяў. Беларускія татары страцілі сваю мову – чагатайскую (афіцыйная мова Залатой Арды). Але яны, каб не ўмерці, цвёрда і пранікліва трымаюцца веры.

**Кірэй МАНУЙЛА**

***P.S.*** 27 ліпеня ў мінскім Доме дружбы адбудзецца навукова-практычная канферэнцыя «Іслам і мусульмане Беларусі ў 20 стагоддзі». Удзел возьмуць каля 40 вучоных з нашай краіны, Расіі, Польшчы, Латвіі, Крыма. Канферэнцыя мае быць досыць прадстаўнічай: дастаткова сказаць, што прыедзе прэзідэнт Сусветнага кангрэса татараў. Плануецца, што ўдзельнікі і госці канферэнцыі пройдуць «татарскім шляхам» – па беларускіх мясцінах, стаўшых святымі для татараў, дзе стаяць мячэці.




Фота Ул. ШЛАПАКА

Мінск. Гасцініца «Юбілейная». На гэтым месцы стаяла мячэць мінскіх татараў

# ВРЕМЯ УБИРАТЬ!




Галоўны рэдактар
**Павел ЖУК**


Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ **№1738** Нумар падпісаны ў друк **26/07/2001** (15:00) Наклад — **9.940**